№ 69 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы—2 м. 70 ф., на 1 мес.—90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 69 (265). Год III. Вільня, 3 верасьня 1918 г. Цэна 10 фэн. (5 кап.)

## Пакушэньне на Леніна.

МАСКВА (П.Т.А.). 31.VIII. **Выходзячы з работніцкага сабраньня ў фабрыцэ Міхэльсона ў Маскве, Ленін ранены двума выстрэламі ззаду. Народны камісар паўночнай Комуны, Арыцкій, забіты на сьмерць.**

У маскоўскіх работніцкіх і салдацкіх кругох вялікі рух.

МАСКВА. «Правда» друкуе гэткіе падробнасьці:

Пры выхадзе Леніна з работніцкага сабраньня дзьве кабеты затрымалі яго і пачалі гутарку аб падвозе ядоміны ў Маскву. Маладая дзяўчына—інтэлігэнтка стрэліла ў яго тры разы, ранючы яго. Адна куля папала ў грудзі, прабіла верх лёгкага і вызвала вылеў крыві ў балону. Другая куля папала ў шыю і засела над правым абойчыкам. Трэйцяя папала ў левае плячо, разьбіла косьць і задзержалася пад самай скурай левага плеча. Яна вызвала ўнутраны вылеў крыві.

«Праўда» друкуе адозву да работнікаў, кажучы:

«Мы не сумлеваемся, што сьляды праступленьня давядуць да правых соцыял-рэвалюцыянераў і да наймітаў англічан і французаў. На пакушэньне на жыцьцё сваіх кіраўнікоў работніцкая маса адкажэ масавым тэрорам».

На першых выпытах стрэляўшая дзяўчына заявіла, што яна—соцыял-рэвалюцыянерка. Забойца Арыцкага, студэнт Канэгісэр, быў на ўтрыманьні саюзьнікаў і належаў да партыі соцыял-рэвалюцыянераў. Яго наняў Савінков, галава англіцкай прапаганды ў Расеі, знаходзячыйся цяпер у Архангельску.

КІЕУ (В.Т.Б.). 31.VIII. Пакушэньне на Леніна зробіла вядомая тэррорыстка, родам с Кіева, Дора Каплан. Арэштаваная ў 1907 г., яна на выпытах вядомым і рэвалюцыянерам ненавісным жандарскім начальнікам, Новіцкім, прабавала забіць яго складанчыкам (складаным ножыкам) і была засуджэна за гэта на 13 гадоў катаргі. Убіўца Ўрыцкага—студэнт палітэхнікума Канэгісэр, зродны брат вядомага правага соцыял-рэвалюцыяра Філененко. Прычынай свайго пакушэньня ён называе ідэйные мэты.

## Беларускіе Вучыцельскіе курсы у Сьвіслачы.

Ад 15 кастрычніка 1918 г. да 15 жніўня 1919 г. ў Беларускай Семінарыі ў Сьвіслачы будзе адбывацца новы элемэнтарны курс для беларускіх вучыцялёў і вучыцеляк.

Адпаведные кандыдаты і кандыдаткі ад 18 да 30 гадоў могуць заяўляцца ў сваіх крэйсамтах; мясцовые—проста ў кіраўніка курсамі, інспэктара Бэндзехі, у Сьвіслачы. Там-жэ яны даведаюцца аб варунках прыёму.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 2 верасьня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і генэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а:* Між Скарп і Сомм на шырыні 55 кіл. англічане вялі далей свае атакі. Цэнтрамі бітвы былі Гандкур і Дорэй, а таксама адрэзак між Ранкур і Бушавэнь. На поўнач ад Гандкур непрыяцэль пасунуўся ўперад, але контратакай ён адкінены ўзноў на Гандкур. За Дорэй ішлі доўгіе бітвы, мясцовасьць асталася ў нас. Наабапал Во—Врокур панцырные аўтомобілі вялі атаку, каторая адбіта. Штурмы проці Вілей о Флё адбіты. Штурмы непрыяцеля на поўнач ад Сомм задзержаны на лініі Саі—Сэн—П'ер Васт і на ўсход ад Бушавэнь—Мон—Сан—Кантэн. Непрыяцель заняў Пэррон. Наабапал Нэль французы далей вялі свае штурмы. На поўнач ад чыгункі Нэль-Ган штурмы адкінены. Уварваўшыся ўвечары ў нашые лініі вораг выкінены дужай контратакай свае пазіцыі. На паўдня ад чыгункі Нэль—Ган непрыяцель зусім адбіты. На паўдня ад Лібрмон непрыяцель таксама зусім адбіты.

---

МАСКВА. 1.IV. Памочнік старшыні надзвычайнай камісіі выдаў гэткі загад: «Праступкі нашых ворагаў прымушаюць нас да масавага тэррору. Кожны, замэчены з аружжам у руках без пазваленьня на пісьме, будзе адразу застрэлены. Агітатары проці савецкай уласьці будуць арэштаваны, і іх будуць дзержаць у концэнтрацыйных лагерах. Усе прэдстаўнікі разбойніцкага капіталу і ўсе капіталісты будуць прымушэны да публічнай работы і меньне іх будзе конфісковано.

МАСКВА. 1.IX. Згодна з дэкрэтам з 29 жніўня прызываюцца ў армію ўсе дактары ад 1885—91 г., усе дантысты ад 1891—97 г., усе вэтэрынары ад 1888—91 г. і ўсе аптэкары 1888—97 г.

КОПЭНГАГА. Лёндонскіе газэты наказываюць, што амэрыканскіе войскі перайшлі мэксіканскую граніцу. Газэты наказываюць аб гэтым пад назовам: «Новая вайна між Амэрыкай і Мэксыкай».

РОТТЭРДАМ. Гішпанскі міністэр міжнародных спраў, Дако, зьвярнуўся да газэт с просьбаю супакоіць грамадзянства, бо ўсе перашкоды паміж Гішпаніяй і Нямеччынай будуць разьвязаны.

МАСКВА (В.Т.Б.) 31 VIII. «Правда» наказывае паводлуг тэлеграмы з Владывастоку, што народ там прынімае ўчасьце ў барацьбе з насільнікамі. Арганізуюцца аружные дружыны проці японцаў. Разрываюць тэлеграфные лініі і забіваюць японскіх тэлеграфістаў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 31.VIII. У французскай прэсе пасьля шчасьлівай опэрацыі Фоша разьвіваюцца вялізарные надзеі. Правые газэты дамагаюцца поўнай пабеды саюзьнікаў да скачальнага зьнішчэньня Нямеччыны.

ЛОНДОН (Рэўтэр) 1.IX. С Шангая наказываюць, што опэрацыі на Уссурыйскім фронце перарваны, бо разламаны мост. Месцы перахода праз Уссурі пад блокадай.

БЭРЛІН. (В.Т.Б). 1.IV. Статссэкрэтар міжнародных спраў ф. Гінцэ едзе ў панядзелак для палітычных перэгавораў у Вену.

КІЕУ. 30.VIII. У Навачэркаску 28 жніўня сабрўся нацыянальны зьезд Донскай обласьці, куды прыбыло каля 300 дэпутатаў. Старшынёй выбраны без мала аднагалосна б. член Гасударственай Думы, Харламоў.

БЭРЛІН. 2.XI. **Урадова.** У Сярэдземным моры нашы падводные лодкі затапілі 15.000 тонн. Між імі адзін ваенны транспорт на больш, чымся 6.000 тонн.

---



*Вільня, 3 верасьня 1918.*

Той факт, што дадатковая ўмова між Нямеччынай і Расеей да Берасьцейскага трактату не ўспамінае аб справе незалежнасьці Беларусі, можэ на першы пагляд вызваць сумлеваньне: ці, наагул, незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны будзе прызнана цэнтральнымі дзержавамі? Аднак, такая думка можэ ўзьняцца толькі на першы пагляд: учытаўшыся у тэкст дадатковай умовы, мы пераконаемся, што аб адносінах цэнтральных дзержаў да беларускай справы йшчэ рана судзіць, і ўмова аб Ліфляндыі і Эстляндыі не становіць апошняга слова ў справе тварэньня новых незалежных гасударств на быўшых землях Расейскай імперыі.

У органе канцлера «Nordd. Allg. Ztg.» аб дадатковай нямецка-расейскай умове мы чытаем:

«Дадатковы трактат да Берасьцейскага трактату мае на мэці ўладжэньне цэлага сьцягу палітычных пытаньняў, якіе ўзьнімаюцца глаўным чынам затым, што адносіны Расеі да акраінных народаў дагэтуль яшчэ ня выясьнены. Цэнтральные дзержавы ня могуць не цікавіцца маладымі гасударственымі арганізмамі, каторые першые выцягнулі да іх руку з мірнай мэтай. Здарэньні, якіе мелі месца пры аддзяленьні акраінных народаў, вымагалі яснага ўпарадкаваньня адносін між Нямеччынай і Расеей. Пры гэтым нямецкі ўрад разам з нямецкім народам дзэржыцца прынцыпа не вызываць і не паддзержываць адрываньня быўшых расейскіх зямель *гвалтам*. Гэты прынцып, ясна выкладзены ў дадатковым трактаце, забасьпечывае для Расеі і на будучый час магчымасьць незалежнага кіраваньня сваімі ўнутрэнымі справамі і гэтак становіць аснову, на каторай павінен апірацць сваё будоўніцтва кожны расейскі ўрад, які ня хочэ вайны з Нямеччынай. Між акраіннымі гасударствамі *на першым месцы*—с прычыны сваіх нямецкіх інтарэсаў—стаяць Ліфляндыя і Эстляндыя. З мірнай умовы выйшла умоўленая разьвязка, каторая выразна стаўляе справу незалежнасьці Балтыцкіх зямель, але, забасьпечываючы тарговые дарогі і ўтварэньне вольных портаў, пакідае для

Расеі назаўсёды адкрытые дзьверы да Балтыцкага мора. Між *новымі гасударствамі, аб якіх у Берасьцейскім трактаце яшчэ гутаркі не было*, годны ўвагі крок упярод на дарозе ўнутрэнага ўзмацаваньня ўчыніла Грузія. Удалося дайсьці згоды Расеі на прызнаньне гэтай дзержавы. Што датычэцца іншых гасударственых арганізмаў на Каўказе, дык дайсці прызнаньня іх Расеей не было магчымасьці..»

Мы падчыркнулі ў гэтай заяве „Nordd. Allg. Ztg.» тые словы, каторые даюць адказ на магчымые сумлеваньні. З іх мы бачым: 1) што магчымасьць тварэньня новых гасударств на б. расейскіх землях, аб каторых *не было гутаркі у Берасьцейскім трактаце*, не выключаецца (прыкладам гэтага служыць Грузія); 2) што Нямеччына абязалася *не вызываць* тварэньня новых гасударств і не паддзержываць аддзяленьня іх ад Расеі *гвалтам*.

С прычыны гэтага другога пункту мы можэм сказаць, што *аб'яўленьне незалежнасьці Беларусі адбылося без ніякага учасьця Нямеччыны.* Гэта было *выяўленьня волі беларускага народу* праз вусны выбраных усебеларускіх конгрэсам дэпутатаў, заседаючых у Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Значыць, аб вызываньні Нямеччынай тварэньня Беларускай дзержавы ня можэ быць гутаркі. Заява-ж аб тым, што Нямеччына ня будзе паддзержываць *гвалтоўнага* адарваньня якой-колечы часьці Расеі, значыць адарваньня яе сілай аружжа, — зусім не выключае дарогі *дыплёматычнай*, дарогі *перэгавораў* з Расеей аб незалежнасьці Беларусі. І па гэтай дарозе і павінны пайсьці цяпер кіраўнікі беларускага ўраду не маючы аружнай сілы—арміі, ім нічога іншага не астаецца.

Агульны вывад з заявы «Nordd. Allg. Ztg.», які можна зрабіць у адносінах да беларускага пытаньня, будзе гэткі: разьвязка пытаньня аб незалежнасьні Беларусі—гэта яшчэ справа будучыны, і самі беларусы сваей творскай працай могуць яе наблізіць у жаданым для беларусаў кірунку.

## Беларусы—„нямецкая інтрыга“.

Гадоў дваццаць таму назад жменя ідэйна - сьвядомых беларусаў першы раз выступіла адкрыта на арэну палітычнай барацьбы за правы свайго народу. Да народу беларускага першы раз прамовілі ў яго роднай мове і расчынілі яго вочы на тое ярмо, якое ён несьвядома нёс на сваіх плячох.

Кінутые ў душу людзей зерняты нацыанальнай і грамадзянскай сьвядомасьці добра прыняліся, і хутка ідэйны беларускі пасеў пачаў буйна каласіцца. І бачучы гэта, задрыжэлі ў сваіх палацах нашы адвечные крыўдзіцелі: яны зразумелі, што разьвіцьце беларускага руху—гэта канец панаваньня над намі польскага панства, канец старой нявoлі. Пачалі шукаць спосабу затушыць узьнімаючыся пажар і, здавалося ім, знайшлі. Сяўцоў беларускай нацыанальнай сьвядомасьці было йшчэ вельмі мала. Гэта былі людзі, якіе выйшлі на барацьбу за свой народ з голымі рукамі: іншага аружжа, апрача слова праўды, яны ня мелі і сілай свайго слова памкнуліся разьбіць адвечные путы нявoлі. Проці іх—проці гэтых людзей і выступіло польскае панства: ідэі забіць нельга, але прарокаў яе можна пазбавіць послуху, закідаўшы іх гразёй. Вось, пачалося выліваньне ўселякіх брудаў на галовы першых беларускіх дзеячоў, а ў канцы пушчэно ў ход самае брахлівае, самае нягоднае абвінавачэньне: „яны падкуплены маскалямі!“ —крычэлі польскіе паны, як у непрытомнасьці.

Пад той час маскалі як-раз вялі палітыку, кіраваўшуюся да поўнага зьнішчэньня беларусаў. У 1839 гаду цар Мікалай І быў забараніў гаварыць па касьцёлах беларускіе казаньні. У 1865 гаду было забаронено друкаваць па беларуску кніжкі і газэты. Беларускую мову выгналі са школ. Вучняў выкідалі вон за гутарку ў роднай мове. Рэлігію прымушалі вучыцца па маскоўску і г. д. І хоць на старане маскалёў была сіла ўрадовай уласьці, яны, убачыўшы, што замучэны імі блізка на сьмерць беларускі народ ня толькі не ўмерае, а паднімаецца да новага жыцьця, спалохаліся ня менш за польскіх паноў. Уціск беларусаў яшчэ болей узмацаваўся. Беларускіх дзеячоў гнаілі ў вастрогах, ссылалі ў Сібір. Ды гэта не памагала: тых, хто аддаў усё сваё жыцьцё, усе свае сілы справе адраджэньня свайго многапакутнага народу, не маглі запалохаць ні жандары, ні паліцэйскіе, ні ўся моц маскоўскае ўласьці, ні цяжкіе кары, ні сьмерць. І маскалі пастанавілі пайсьці па сьлядох палякоў: ня могучы зьнішчыць беларускай работы, яны стараліся яе паганьбіць і аб'явілі на ўвесь сьвет, быццам беларускі рух да адраджэньня —гэта «польская інтрыга...»

Гады йшлі за гадамі. Беларусы маючы на сваю абарону адно толькі сьвятасьць і праўду, адбівалі напасьці як с польскага, так і з маскоўскага боку,—а ў той-жэ час нацыанальная сьвядомасьць шырылася ў народзе ўсё болей і болей, прыбывало чынных сіл беларускіх, узрастало нашэ культурнае багацьце. І вось цяпер—цэраз дваццаць гадоў—увесь гэты доўгі, цяжкі труд, усе ахвяры працай і жыцьцём далі багаты плён: беларуская нацыанальная ідэя прыбралася ў конкрэтную форму ў постаці *незалежнай Беларускай дзержавы.*

Самі, сваімі рукамі—без ніякай помачы збоку будуюць беларусы сваю незалежную Бацькаўшчыну. Дагэтуль ні маскалі, ні окупацыйные ўласьці не прызналі незалежнасьці Беларускай дзержавы, але ніхто ня можэ перашкодзіць тварэньню яе І, ня гледзячы на няпэўнасьць будучыны, праца ў нас не спыняецца: народ Беларускі пад новае ярмо ўжо ня пойдзе!

Беларуская справа разьбіла ўсе старые палітычные пляны нашых «братоў» і найбліжэйшых суседзяў—палякоў. Яны спадзеваліся, што ў агульнай ваеннай заверусе ім удасца захапіць Беларусь пад сваю ўласьць, каб беларускімі сокамі ўзмацаваць сваю польскую дзержаву. Але гэта ім не ўдалося: беларусы хочуць жыць незалежным жыцьцём, хочуць мець дзержаву,—і ніхто ня можэ запярэчыць ім права на гэта. Дык-жэ палякі, ня гледзячы на тое, што незалежнасьць Беларусі—гэта выражэньне волі ўсяго нашага народу, стараюцца перад усім сьветам прэдставіць беларускую справу ўжо не за маскоўскую, а за нямецкую „інтрыгу“. Кракаўская газэта «„Czas“ у № 858 з 17.VIII. 18 пішэ: «Немцы нездаволены літвінамі і хочуць усякімі спосабамі разбудзіць беларусаў або—лепей сказаць —стварыць іх і так сама ашчасьлівіць іх незалежнасьцю. Гэта йшчэ меней рэальная концэпція, чымся літоўская, і трэба дзівіцца людзём, каторые ў Нямеччыне стаяць на чале ўраду, што яны займаюцца такімі плянамі».

Кожны, хто ведае гісторыю беларускага руху, толькі пасьмяецца з гэтай новай „штучкі“ польскай палітыкі, каторая, як бачым, яшчэ страшэнна наіўная: то-ж так званая незалежная Польшча якраз створэна Нямеччынай у суполцэ з Аўстрыей! У будаваньні незалежнай Беларусі дагэтуль, на вялікі жаль, цэнтральные дзержавы ніякага ўчасьця не прынімалі. Калі-ж бы польская газэта, сіпючы ад злосьці, што палякам не далі Беларускай зямлі, аказалася добрым прарокам і калі-б беларусы ў блізкой будучыне пры будаваньні сваей дзержавы сустрэлі помач Нямеччыны, — дык мы маглі б толькі шчыра пацешыцца: пры гэткай магутнай паддзержцы справа незалежнасьці Беларусі борзда пайшла бы ўпярод.

*І. Мелешка.*

## Падзеленая Беларусь.

«Бел. Шлях» дае ў № 99 даволі цікаўную статыстыку, як цяпер падзелена Беларусь.

Паводлуг этнаграфічнай карты праф. Карскага, Беларусь занімаэ 63 паветы. Да гэтага ня ўходзяць беларускіе акраіны Цьверскай і Псковскай губэрняў.

Стары фронт раздзяліў некалі Беларусь на дзьве часьці. Цяпер новая граніца окупацыі праходзіць каля Оршы і Полацка. Ужо пасьля новай окупацыі Украіна забрала часьць Палесься і беларускіе паветы Чарнігаўшчыны, а беларускі Ілукшцкі павет залічэн пры Курляндыі. Мы яго лічым да старой окупацыі. Цяпер абраз нашае Бацькаўшчыны вось такі:

занято

| | | |
|---|---|---|
| старой окупацыей | 17 | пав. |
| новай „ | $18\frac{1}{2}$ | „ |
| пад Маскоўшчын. | $19\frac{1}{2}$ | „ |
| „ Украінай | 8 | „ |
| разам | 63 | „ |

С чыста беларускіх губэрняў пад Масквой яшчэ астаецца: $4\frac{1}{2}$ паветы Вітэбскай губ. (Вітэбскі, Веліжскі, Гарадоцкі, Нэвэльскі і палавіна Полацкага) і 6 пав. Магілёўскай (Горэцкі, Клімавіцкі, палова Магілёўскага, Мсьціслаўскі, палова Аршанскага, Чаўскі, Чэрыкаўскі), — разам $10\frac{1}{2}$ пав. З мешаных губэрняў пад маскалямі 8 беларускіх паветаў Смаленшчыны і 1 пав. Арлоўскай губ.

Пад нямецкай окупацыей—старой і новай—$35\frac{1}{2}$ паветаў.

# Божае цяпло.

*Беларуская казка.*

Як было два браты. Жылі яны разам. У меньшага брата дзеці былі, а ў вялікшага ня было дзяцей. Тады яны ўзялі і падзяліліся. Вялікшы брат кажа: „у цябе дзеці; я на тваіх дзяцей усё працую, а карысьці ад цябе ніякае ня маю!“ І даў яму дабра толькі па чацьвярычку. Астаўся гэны меншы брат адзін. І дужа яму было блага жыць бяз старшага брата! Як прыйшоў вялікі пост, дык яму і ня было чым загавець: зварылі поліўкі аднэй і тым загавелі. Тады стаў ён прасіць Бога: Госпадзі, як нам пераджыць вялікі пост, што няма ў нас ані нічога? І так зробілося—як ён папрасіў Бога, Бог яму так даў, што яны ўсё спалі,—увесь пост да сьвятога Вялічка. Тады прачнуўся сам гаспадар, выйшоў на вуліцу, палядзіць і дзівіцца: што гэта, кажа? На першы дзень посту ўсё йдуць і з лубачкамі, і з ношачкамі? І дзівіцца: што гэта такое? Прыходзіць у хату і будзіць жонку. І кажа: што гэта такое сягоньні за сьвята, што ўсе йдуць з лубачкамі, з ношачкамі?—Ня ведаю, кажа жонка. Але-ж, кажа, як мы зусім пакалелі. Ідзі ты куды-небудзь, папрасі цяпла! Ён пайшоў да старшага брата і кажа: „Як маецеся!“—Здароў!—„Ці не далі-б вы мне цяпла троху!“—Во чалавек; проці Вялічку цяпла ня маець; ты за сном і сьвэту ня відзіш! А ён усё паглядае з боку на бок і дзівіцца, што ў яго на стале дужа багата. Ня даў яму брат цяпла і вон выгнаў. Ён тады пайшоў да суседа прасіць цяпла. Гэны сусед кажа: што-ж ты так не назапасіўся цяплом: сягоньні Хрыстоў дзень—цяпла не даюць! І ня даў яму. Выйшаў ён на вуліцу і глядзіць—сам ня ведае, што яму робіць. Палядзіць, аж пад ляском цяпелца гарыць. Ён і пайшоў туды. Прыходзіць да цяпла, аж там сядзіць старэнькі. „Здароў!“—Здароў. Чаго прыйшоў да мяне?—„Ды прыйшоў я да цябе папрасіць цяпла!“ — Нешта-ж ты так: і здароў кажаш, і цяпла ня маеш? Сяньні-ж ніхто ня кажа: здароў! Сяньні Хрыстоў дзень, — і кажуць: Хрыстос васкрос!—„Ды вось, старэнькі: мне Бог так даў, што я праспаў увесь вялікі пост. А цяпер у мяне няма нічагусенькі, ня то што—хату няма чым абагрэць. Ці ня можна б, дзядуля, у цябе цяпелца ўзяць?“ —Чаму-ж, кажа, можна! Набяры вугальчык ў сьцюдзёных і накідай дома ў лубачкі, у дзежачкі, у засечкі, па'днаму вугальчыку. Тады вазьмі гарачы вугаль і затоплівай печку і вары, што табе ўздумаецца: будзе ў цябе ўсяго. Ён яму падзякаваў і пайшоў. Прыходзіць дамоў, паўкідаў па вугалю ўсюдых. Тады кажа жонцы: на табе гарачы вугаль, затапі печку ды пойдзем у клець! Яна затапіла печку й пайшла ў клець. Прыходзяць туды, палядзяць, —аж там стол гатовы, ляпей яшчэ, як у брата. Пайшлі яны далей; палядзяць—аж у яго з засекаў мука сыпіцца. А золата і срыбра—не зьнясёна! Ён тады з радасьцю пабег да брата: „браток мой родненькі! Ты мне ня даў цяпелца,—палядзі-тку цяпер, што мне Бог прыслаў!“ Той тады кажа: „ды ня што-ж ты за вялікі пост робіў, мусіць накраў“! — Не кажа: мне Бог так даў. Тады брат кажа: ну, калі ты так разбагацеў, хадзі пакажы мне сваё багацьце! І пайшлі да яго. Той як палядзіць, аж ў яго і залата і срыбра так многа, што й пералічыць ня можна. Дужа яго завісьць забрала. Стаў ён пытацца: дзе ты, кажа, усяго гэтага набраў? — А так і так кажа: як я да цябе прыходзіў прасіць цяпла, ты мне ня даў. Выйшаў я на вуліцу і ўбачыў каля лесу цяпелца, і пайшоў туды. Прыходжу, аж там сядзіць старэнькі. Я кажу: здароў! А ён кажа: цяпер ня кажуць: здароў! Сягоньні Хрыстоў дзень. Ты праспаў увесь вялікі пост і ня ведаеш. І даў мне вугальчыкаў. На, кажа, палажы, дзе толькі ёсьць у цябе лубачкі, дзежачкі, засекі. Я так і зробіў. Прыходжу посьля, аж там поўна ўсякага дабра.

Завісьць бярэць таго брата. Выйшаў ён на вуліцу, бачыць—цяпелца яшчэ гарыць ля лесу; дык ён і пайшоў туды. Прыходзіць туды, старэнькі сядзіць. „Здароў, кажа, старэнькі!“—Які здароў? Не здароў, а Хрыстос васкрос!—„Я, кажа, старэнькі, ня знаў!“— А чага ты да мяне прыйшоў?—„Ды хацеў цяпла папрасіць!“—А паглядзі-тку назад,—вун у цябе цяпло! Паглядзеў ён назад, — аж яго двор гарыць. Ён тады пабег, тушыў-тушыў,— нічога ня зробіў. Згарэў двор чысьценька ўвесь. Прыходзіць ён тады да меньшага брата і просіцца жыць, у суседзі. Той кажа: „Пажджы, я схаджу папытаюся ў старэнькага, ці можна цябе ўзяць! Пайшоў, папытаўся. Старэнькі той яму кажа: ты, кажа, яго вазьмі, ды толькі, каб ты яму загадаваў, а ня ён табе; а калі ён з табой сварыцца зачанець, ты яго і выгані! Ён так і зробіў; пусьціў яго ў хату. Тады ён, брат той, пажыўшы там колькі, стаў з ім сварыцца і біцца. Малодшы брат яго і выгнаў. Як выгнаў, дык яго ніхто ня пусьціў у хату. І пайшоў ён старцаваць.

заснаваў „Таварыства дзеля адбудовы нашае бацькаўшчыны“.

АРХАНГЕЛЬСК (Рэўтэр). Тут утварыўся тымчасовы ўрад с членаў установчага сэйму пад назовам «вярхоўнае ўпраўленьне паўночных зямель».

МАСКВА (П.Т.А.). 26.VIII. **Военнае апавешчэньне:** У Туркестане мы ізноў дайшлі вялізарнай пабеды. Пры Мэрві ворагі ўтрацілі 2.000 душ. Спадзеваемся заняць Асхабад і гэтак палажыць канец паўстаньню ў гэтым краю. У ваколіцах Казані йдзе вострая бітва. Ворагі двойчы атакавалі нашы пазыцыі на Высокай гарэ, але былі адкінуты. Мы занялі вёскі Лошчакоў і Кіндара і ўзялі два панцырные самаходы, кулямёт і разьбітую гармату. У палудзеннай часьці фронту ворагі ўтрацілі 4 кулямёты, 50 стрэльб і 2.000 душ забітымі. Каля Дзьвіны—вострые бітвы. На палудві мы занялі Кацярынадар і станцыю Тіхарэцкую.

ПЕЦЯРБУРГ. «Праўда» з 28 жніўня пішэ аб слаўнай пабедзе савецкіх войск на Уссурыйскім фронце, дзе разьбіты чэха-славакі, французы, англічане і японцы.

ПЕЦЯРБУРГ. Пасьля 4-гадовага перарыву, сюды 26 жніўня прыйшоў першы нямецкі параход.

## З усяго сьвету.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 29 жніўня ў Стамбуле ізноў згарэло ад пажару больш за 500 дамоў.

БЭРЛІН. **Урадова.** Ураджай сёлета лепшы за леташні на 10—15°/₀°/₀ Раньняя бульба дала на 20°/₀ больш.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньні.

**30.VIII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і генэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а*: Каля абеду ворагі ізноў штурмавалі. Цэнтр штурмаў быў на паўдня ад чыгункі Арра—Камбрэ. Праз дзень мы некалькі разоў адкідалі ворагаў атакаваўшых Гандкур. Далей на паўдня англічане ўварваліся ў Більнур і Ранкур. У вострых бітвах мы адваевалі назад Ранкур і нанова здабылі ўсходнюю часьць Більнур. Паабедзе ворагі пашырылі свой фронт да Бапом. Тут іх штурмы зламаліся ўжо пад нашым агнём. У пяці штурмах разьбіта шмат панцырных самаходаў. На поўначы ад Соммы мы дзеля еднасьці з рухамі на поўдня ад ракі ўзялі нашу лінію назад—на ўсход ад Бапом да Пэррон. Між Пэррон і Уаз сільные штурмы ворагаў проці нашых новых ліній адбіты. Пры Айет французы на вузкім адрэзку перайшлі на ўсходні бераг. Між Айет і Эн французы і амэрыканцы пачалі нанова штурмаваць. Між Пон—Ст. Мар і Шавіньі яны пачалі штурм ад першай раніцы. Густые грамады пяхоты ішлі пад прыкрыцьцем панцырных самаходаў. Цяжкіе штурмы ворагаў адбіты без астатку. Зьнішчэны 72 панцырные самаходы. Французы тут сустрэліся с цяжкім разгромам Іх страты незвычайна вялікіе. Мы ўзялі палонных здзесяцёх розных дывізій.

**31.VIII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і генэрал ан-шэфа ф. Бэн'а*: На полі баталіі на поўдня ад Арра англічане ізноў панукаліся прарваць наш фронт. На самай раніцы, на фронце 29 кіл. шырокім, пад абаронай панцырных самаходаў англіцкіе і канадзкіе дывізіі пачалі штурм. На паўдня ад дарогі Арра—Камбрэ мы адкінулі ворагаў перад нашымі лініямі. На поўначы ад Гэдкур ворагі пасунуліся ўпярод, але былі адкінуты контратакай. На поўдня ад Гэдкур, між Во—Врокур і Фрэнікур, варожы штурм адбіты. Мы адабралі назад часова ўтрачэны Гэдкур, перайшлі самі ў наступленьне і адкінулі ворагаў наабапал Вількур. На поўдня ад Эку ў вострых бітвах мы адбілі некалькі варожых штурмаў. Часова ўтрачэную вёску Эку мы контратакай адабралі назад. Наабапал Бапом штурм ворагаў адбіты. Паабедзе ворагі павялі ў бітву новые дывізіі. Позна ўвечары бітва скончылася ўдачна для нас. Густые масы ворагаў былі разьбіты нашым агнём або ў крывавых штыховых бітвах. Панцырные самаходы зьнішчэны, а варожая пяхота мела незвычайна цяжкіе страты. На поўначы ад Сомм, між Морваль і Клері, варожые штурмы адбіты агнём і контратакамі. На поўначы ад Уаз французы вялікімі сіламі атакавалі між Лібрмон і Нуаён. Іх атакі зламаліся ўжо пад нашым агнём. С Шэвілі ворагі выкінуты пасьля вострай бітвы. На поўначы ад Суассон мы выпрасталі кут пры Палі ў карацейшую лінію Жівені—Бюссі ле Ліон. Учора ворагі штурмам здабылі Жівэні.

За апошніе 2 дні мы зьбілі 52 самалёты.

**1.XI. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага і генэрал-ан-шэфа ф. Бэн'а*: Між Іпрам і Лябассэ мы скарацілі наш фронт і аддалі ворагам Кэмэль. Ворагі, не заўважыўшы нашага руху атакавалі ўчора вялікімі сіламі пакінутые намі лініі. Ворагі занялі Кэмэль і пайшлі сьледам за намі цераз Байель—Нэв-Бэркэн.

Ля дарогі Арра—Камбрэ англіцкіе пяхотные штурмы зламаліся перад нашымі лініямі. У новых штурмах ворагі ў вечары занялі Більнур і Эку. Між Морваль і Пэррон пасьля вострага агня атакавалі англіцкіе і аўстралійскіе дывізіі. Яны адбіты. Утрачэны часова Бушавэнь мы контратакай адабралі назад. Спробы ворагаў перайсьці цераз Сомм пры Брі і Ст. Кріст адбіты. Між Сомм і Уаз французы вялі сільные штурмы. Францускіе дывізіі наабапал Нэль пад нашым агнём не разьвілі сваіх атак. Пры Эку ворагі адкінуты контратакай. Між Болье і Морленкур сконцэнтрованые атакі зламаліся с цяжкімі стратамі. Вялікіе варожые сілы, атакаваўшые на поўначы ад Фарэн і пры Брэтіні, адбіты. Між Уаз і Эн пасьля найсільнейшага агня артылерыі ізноў пачалася пяхотная бітва. На паўдня ад Уаз атакі ворагаў пад агнём нашых кулямётаў і артылерыі не разьбіліся. Наабапал Шан ворагі наступалі вялікімі сіламі, але контратакамі былі адкінуты на свае старые пазыцыі. Між Айет і Эн ворагі ў вечары пачалі свае штурмы вялікімі сіламі. Контратакамі мы іх адкінулі. Толькі на ўсходзе ад Лювіньі яны пасунуліся да Тэрні Сорні. Тут спынілі іх нашы рэзэрвы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. С прычыны ўрадзін Канцлера, які канчае 75 гадоў жыцьця, Гіндэнбург паслаў яму тэлеграму, кажучы паміж іншым:

«Нямеччына знаходзіцца ў цяжкіх бітвах. Усё новымі і новымі штурмамі ворагі стараюцца зрабіць станоўчы прарыў, каторы ім дагэтуль не ўдаўся. Іх стараньні і надалей дарэмны. Перад намі йшчэ цяжкая барацьба. Нямецкі народ ведае, што на палёх у Францыі, Фляндрыі мы баронім бацькаўшчыну. Прамовы варожых гасударственых мужоў не даюць месца для сумлеваньня, што жджэ Нямеччыну, калі мы ня дойдзем пабеды».

Канцлер адказаў тэлеграмай, гаворачы паміж іншым:

«Нямецкі народ ведае, што армія пад камандай сваіх вялікіх начальнікаў выдзяржыць усе варожые штурмы. С цьвёрдай верай і ўдзячнасьцю ўспамінае нямецкі народ, што Вы і генэрал Людэндорф у часе вайны разьвязывалі яшчэ больш сур'ёзные крызысы».

ВЕНА. (Корр. Б.). 28.VIII. Турэцкіе сілы занялі ўвесь Трыполіс апрача фортаў, якіе астаюцца яшчэ ў італьянскіх руках: Трыполіс, Гомс, Мізурата, Бэнгазі, Дэрна.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 29.VIII. У Сярэдземным моры нашы падводные лодкі затапілі каля 17.000 тонн. У тым ліку—1 параход 8.000 тонн з рыжэм, везеным з Індыі ў Англію.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах нашы падводные лодкі затапілі 16.500 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Навакол Англіі нашы падводные лодкі затапілі 19.000 тонн.

## Беларускія народныя песьні.

### Дажынкавыя.

*Вітэбская губэрня.*

Хадзіў спарыш па вуліцы,
Ніхто спарыша ў хату не бярэць.
Адазваўся малады Зьмітрок,
Узяў спарыша к сабе ў хату,
Пасадзіў спарыша на куце.
„А ў мяне для спарыша
Сталы засланы белымі абрусамі,
Кубкі наліты зялёным віном!»

——

Каб нам чатыром ядронае жыта—
Мы-б яго пажыналі!
Каб нам чатыром ды п'янае піва—
Мы-б яго папівалі!
Каб нам чатыром ды звонкія гусьлі—
Мы-б на іх паігралі!
Каб нам чатыром малады дзяціна—
Мы-ж бы з ім жартавалі!

——

Чыя-ж гэта барада
Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта?
Рана, рана!
Сьцяпанава барада
Мёдам-віном уліта,
Чорным шоўкам ушыта,
Рана, рана!
Ты, Анютка, ня гуляй,
Шоўк з барады выбірай,
Рана, рана!

Скупому гаспадару пяюць:

Чыя-ж гэта барада
Смалой дзёгцям уліта,
Дратваю ушыта?
Рана, рана!
Міхалкава барада
Смалой, дзёгцям уліта,
А дратваю ушыта,
Рана, рана!
Ты, Катрынка, ня гуляй,
Смалу з барады выбірай,
Рана, рана!

——

А ў цёмным лесе, 2
Рана, рана!
Мядзьведзь рыкае.
Рыкай, ня рыкай, 2
Рана, рана!
Я не баюся,
Толькі баюся, 2
Рана, рана!
Цёмнае ночкі!
Цёмная ночка, 2
Рана, рана!
Разлука наша!

——

Хадзіў раю, раю-раю, па вуліцы,
Ніхто раю, раю-раю, ў хатку ня просіць.
Толькі папросіць, раю-раю, а наш паночак:
«Прошу раю, раю-раю, ў маю хатку!
У маёй хатцы, раю-раю, ўсё ў парадку:
Сталы засланы, раю-раю, кубкі наліты;
Мае абрусы, раю-раю, бялёвыя;
Мае кубкі, раю-раю залатыя;
Віном-мёдам, раю-раю, налітыя!“
— А хто-ж кубкі, раю-раю да наліваў?
— Налівала кубкі, раю-раю, наша паня!
Яна жнеяк, раю-раю, дажыдала,
Старшую жнейку, раю-раю, частавала!

Гэтая песьня лічыцца самай важнай з усіх дажынкавых песьняў. Народ кажа, што гэтую песьню пяяў сам Бог, як кончыў жаць.

*Менская губэрня.*

Да наш пан у ганачку,
Да і зьняўшы шапачку:
— «Да ка мне, жнейкі, ка мне,
Да з густымі снапамі,
Да с частымі капамі:
У мяне гумно вялікае,
Застаронкі шырокія,
Аруды глыбокія!“

——



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.